# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 19 (166) • 8 — 16 траўня 1996 • Кошт свабодны

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА


**Трэцяга траўня адбылася 28 сесія Гарадзенскага гарадзкога Савету дэпутатаў 21 склікання. Як вядома, новы склад дэпутатаў Горадня не абрала, таму Вярхоўным Саветам працягнуты паўнамоцтвы "старога".**

**На працягу аднаго дня былі разгледжаны і зацьверджаныя прагноз эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця, бюджэт, праграмы "Здароўе" і прыватызацыі на 1996 год.**

# УВЕРХ ПА ЛЕСЬВІЦЫ, ЯКАЯ ВЯДЗЕ ЎНІЗ

● ХАРЧОВЫХ ТАВАРАЎ БУДЗЕМ ВЫРАБЛЯЦЬ МЕНШ НА 0.9%.

● 7,9 ТЫСЯЧЫ ЧАЛАВЕК НА КАНЕЦ ГОДУ ЗАСТАНЕЦЦА БЯЗ ПРАЦЫ.

● АЛКАГОЛЬНЫХ НАПОЯЎ ПЛАНУЕЦЦА ВЫРАБІЦЬ НА 34,7% БОЛЬШ.

Тэмп росту прамысловай вытворчасьці Горадні складзе 100,1% (у мінулым годзе 108,2%). Невялікі рост прагназуецца на прадпрыемствах хімічнай прамысловасьці, машынабудаваньня, электраэнергетыкі. Аб'ём тавараў народнага спажываньня ў параўнаньні з мінулым годам складзе 100,6%. Але харчовых тавараў будзем вырабляць менш на 0,9%, а нехарчовых - на 3,8%. Затое алкагольных напояў плануецца вырабіць на 34,7% больш.

Пры агульнай колькасьці працаздольнага насельніцтва ў 188 тысяч 900 чалавек, на рынку працы чакаецца 33,2 тысячы. З іх 16,7 тысячы ўладкуецца самастойна, а 16 з паловай тысяч зьвернецца па дапамогу ў службу занятасьці. Аднак ня ўсе яе атрымаюць - 7,9 тысячы чалавек на канец году застанецца бяз працы (для параўнаньня: на 1 красавіка ўжо было 7300 беспрацоўных).

У бліжэйшы час плануецца завяршыць рэарганізацыю гархарчгандля (да гэтага, як вядома, ліквідаваны гарпрамгандаль). Большай частцы крамаў прадстаўлены правы юрыдычнай асобы. На базе Ленінскага і Кастрычніцкага трэста сталовых і рэстаранаў, а таксама трэста гасьцінічнай гаспадаркі плануецца ўтварыць адкрытыя акцыянерныя суполкі. "Гарпладгароднінагандаль" пераўтвораць у аграфірму з удзелам калгасаў вобласьці.

Плануецца пабудаваць 1520 кватэр ( у 1995-м - 657). Сувязісты парадуюць новай АТС на 5000 нумароў, якая заменіць АТС-45 (цэнтральная частка горада) і павялічыць ёмістасьць тэлефоннай сеткі на 2000 нумароў. А вось транспартнікі не радуюць нават планамі. Найгоршая сітуацыя ў авіяатрадзе, дзе прагназуюць амаль на чвэрць менш адправіць пасажыраў і грузаў, чым у мінулым годзе.

Бюджэт, які быў запланаваны па даходах і расходах у суме 423 мільярда 794 мільёны рублёў, выклікаў спрэчкі. Дэпутатаў абурыла, што пры мізэрнасьці сумы, якой ледзьве хапае толькі на выплату заробку "бюджэтнікам", 90% асноўных падаткавых паступленьняў зьбірае вобласьць і Менск. А пасьля частка гэтых грошай вяртаецца ў выглядзе датацый (55,2 мільярда рублёў)! Былі нават прапановы не зацьвярджаць бюджэт, аднак яны разьбіліся аб "жалезны" аргумант, што ў такім выпадку гарадзенцы атрымаюць яшчэ меншую суму.

Не ўдалося дэпутатам і пераразьмеркаваць сродкі "унутры" бюджэту. Дэпутат Іосіф Палубок, які вельмі жорстка паставіў пытаньне аб заканчэньні будаўніцтва дзіцячай паліклінікі ў Прынёманскім, нягледзячы на славесную падтрымку часткі сваіх калег, вымушаны быў канстатаваць пасьля сесіі, што, па-ранейшаму рашэньні зьяўляюцца простым прыняцьцем да ведама таго, што "спускают" зьверху. Пры гэтым улічваюцца інтарэсы каго заўгодна, толькі ня тых людзей, якія дэлегавалі дэпутатаў на "дзяржаўную дзейнасьць".

І сапраўды, тая ж дзіцячая паліклініка на працягу ўжо 5 гадоў ходзіць у пасынках. Затое знаходзяцца грошы на будаўніцтва пансіянату абласной бальніцы, які, па сьцьвярджэньню некаторых дэпутатаў, "прабівае" адна высокапастаўленая асоба. Атрымліваецца, што ня скончыўшы старое, бярэмся будаваць новае.

Згодна з зацьверджанай дэпутатамі праграмай прыватызацыі, больш 50 аб'ектаў камунальнай уласнасьці памяняюць ў 1996-м годзе форму ўласнасьці. Транспартны збор павялічаны з аднаго да трох працэнтаў ад фонду зарплаты з усіх суб'ектаў гаспадараньня. Адначасова, з васьмі да пяці працэнтаў зьніжана стаўка адлічэньняў у пазабюджэтны фонд на ўтрыманьне дзіцячых садкоў.

**М.ТУРАВЕЦ.**

# ГУЛЯЙ НАРОД!

## СЬВЯТКУЙ РЭФЕРЭНДУМ!

7 траўня на адрас усіх выканкамаў паступіла тэлеграма ад прэзідэнта А.Лукашэнкі аб устанаўленьні і сьвяткаваньні 12 траўня Дня дзяржаўнага сьцяга і герба. Загадана ў гэты дзень у самастойна вызначаны час урачыста падняць сьцягі і правесьці масавыя гуляньні, канцэрты і г.д. У вайсковых частках павінны адбыцца сходы і мітынгі.

**С.С.**

## ЛАВІЦЬ ЖУЛІКАЎ

### БУДЗЕ НАРОДНАЕ "АПАЛЧЭНЬНЕ"

7 траўня на вуліцах Горадні зьявілася новая народная дружына - "Ветэранскі патруль". У склад гэтага народнага "апалчэньня" увайшлі выключна людзі пенсійнага ўзросту. Для новых дружыньнікаў сьпецыяльна падрыхтаваны пасьведчаньні і павязкі, на якіх красуецца надпіс "Ветэранскі патруль".

На мэце дружыны барацьба і выкрыцьцё разнастайных жулікаў, п'яніц і злачынцаў.

Што ж, можа дзякуючы такім "ахоўнікам" гарадзенцы змогуць спаць спакойна.

**Г.В.**

# МАЛАДЫЯ КАМПАЗІТАРЫ

## *САБРАЛІСЯ Ў ГОРАДНІ*

З 5 па 8 траўня ў Горадні праходзіў IV Міжнародны фестываль маладых кампазітараў "Надзея-96". Для ўдзелу ў фестывалі зьехаліся 65 маладых талентаў з Расеі, Украіны. Беларусь прадстаўлена кампазітарамі з Менску, Брэста, Маладэчна, Ліды, Слоніма, Зельвы і іншых гарадоў. Яны паказалі творы ў розных жанрах, у тым ліку 5 балетаў, харавыя творы. У журы вядомыя музыканты Т.Чудава, В.Кузьняцоў, старшыня журы -В.Карэтнікаў.

Заключны канцэрт і ўзнагароды лаўрэатам адбыліся 8 траўня ў 11 гадзін у памяшканьні тэатру лялек.

**С.С.**

# "ЛЯГЛІ"... ПАД "ДЫНАМА-93"

## КОЛЬКІ МОЖНА ЗЬДЕКВАЦЦА З ЗАЎЗЯТАРАЎ "НЁМАНА"

У чацьвёртым туры чэмпіянату краіны па футболе "майстры" з гарадзенскага "Нёману" паслухмяна "ляглі" пад "Дынама-93" (0:3). Колькі можна чыніць зьдзек з заўзятараў клуба, колькі можна ганьбіць Горадню? І хто адкажа за тое, што футбол у абласным цэнтры развальваецца на вачах. Непатапляльныя чыноўнікі з спарткамітэту пакуль маўчаць. Між тым адна каманда горада ("Хімвалакно") ужо спыніла сваё існаваньне, "Кардан Флаерс" трымаецца толькі дзякуючы бязьмежнаму энтузіязму ветэранаў, а "Нёман" уяўляе сабой сёньня набор выпівакаў і абыякавых людзей.

Лідзкі "Абутнік" крыху спатоліў ачковы голад, разыйшоўшыся мірна ў Рэчыцы з "Ведрычам" (0:0).

**Х.КАМЕНСКІ.**

# "МАЛЬБАРА" вiншуе ветэранаў

## • Скрадзеная Перамога

Перамога, выкаваная ў неверагодна цяжкіх бітвах з нацызмам усімі народамі былога СССР, вызваліла ад фашысцкай навалы ня толькі Эўропу, але ўвесь сьвет. Гэта была Перамога ўсіх нашых людзей: рабочых і сялян, інжынераў і ўрачоў, настаўнікаў і дзяцей. Гэта была Перамога тых, хто дайшоў да Берліна, Прагі і Вены, і тых, хто загінуў на землях Польшчы, Прыбалтыкі, Балканаў.

Народы Захаду здолелі скарыстаць Перамогу ў мэтах забесьпячэньня матэрыяльнага дабрабыту, эканамічнага росквіту і ўтаймаваньня рэваншызму. Народы Усходняй Эўропы нічога гэтага не атрымалі. Наадварот, іх правадыры, паверыўшы ва ўласную бязгрэшнасьць, адплацілі сваім народам чорнай няўдзячнасьцю.

Ужо вясной 1945 году Сталін загадаў камандуючым франтамі стварыць лагеры для разьмяшчэньня ваеннапалонных, якіх вызвалілі з нямецкіх канцлагераў, умяшчальнасьцю да 1 млн. чалавек. Гэтых няшчасных пазбавілі перамогі і адправілі рубіць паўночныя лясы.

Астатніх адгарадзілі ад цывілізацыі калючым дротам. За дротам і гібелі ветэраны дзесяцігоддзямі. Камуністычныя правадыры ўкралі Перамогу ў народу. І сёньня былыя байцы, якія прынесьлі свабоду тым жа немцам, вымушаны прымаць ад іх падачкі ў выглядзе гуманітарнай дапамогі і чакаць спаўненьня абяцанак фінансавых ін'екцый. Нават віншуюць ветэранаў на шчытах ад "Мальбара".

Аднак сёньняшнія ўлады маўчаць пра турботы ветэранаў і нацкоўваюць іх на моладзь і патрыётаў Бацькаўшчыны. У добрых старых традыцыях ізноў крадуць чужую Перамогу.

**М.СТАРЫ.**



## У НУМАРЫ:



● **НА ТРОХ КІТАХ...**

Сустрэча з пакуль адзіным на Гарадзеншчыне сапраўдным членам Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва - скульптарам Уладзімірам Панцялеевым.



● **СПРАВА ПА ІСКУ**

былога дырэктара рэстарана "Вілія" В.М.Хацятоўскай аб аднаўленьні на працы разгледжана ў судзе аж у чацьвёрты раз!



● **ПЯРУНААДВОД**

у стасунках улады і народу ... Ідзе мэтанакіраванае разбурэньне міліцыі і яе пераарыентацыя на вулічна-дрынявы стыль дзеяньня.




● ТБК, Астанкина, РТР, С.-Пецярбург, НТБ, Польшча-1, Польшча-2.



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЧАГО ХОЧАМ МЫ, КАРЭННАЯ НАЦЫЯ БЕЛАРУСІ?

**Прэм'ер Расеі В.Чарнамырдзін пасьля падпісаньня дагавору аб "аб'яднаньні" Беларусі з Расеяй сказаў наступнае: "Вместе мы переживём любую беду". Колькі ж бед мы пераЖылі па ініцыятыве Расеі ў XX стагоддзі?**

1914 г. - вайна Расеі з Нямеччынай на тэрыторыі Беларусі. Брэсцкі мір - акупацыя Беларусі Нямеччынай. Вайна Расеі з Польшчай, падзел Беларусі на Заходнюю і Усходнюю. 1929 г. - калектывізацыя. 30-я гады - зьнішчэньне беларускай інтэлігенцыі. 1937 - 1940 г. - Курапаты. 1939 г. - Віленскі край адыходзіць Летуве. 1941 - 1945 г. - II Сусьветная вайна на тэрыторыі Беларусі, загінула 2,5 млн. карэнных жыхароў. 1945 г. - беластоцкі край маскалі абмянялі на Кёнігсберг.

1991 г. - мы разышліся па сваіх дзяржавах. Расея тут жа ўляпалася ў новую бяду - вайну з Чачнёй. А мы жывем у сваёй дзяржаве хоць бедна, але мірна. У нас не страляюць. У нас кепскі ўрад, нікуды ня годныя начальнікі, мы памяркоўныя, талерантныя, апазіцыя наша - злосныя нацыяналісты, а Зянон Пазьняк лысы, але ў нас не страляюць.

А Расея ізноў хоча ўзяць рэванш у Гісторыі.

А чаго хочам мы, беларусы? Мы ня хочам быць Вялікімі! Мы хочам быць эўрапейцамі: культурнымі, адукаванымі, цывілізаванымі. Мы хочам вучыцца цывілізацыі ў Парыжы, Берліне, Варшаве, Празе, Лондане, Вене, Браціславе і другіх эўрапейскіх гарадах і краінах.

Мы стаміліся ад усяго рускага: ад рускага хамства, рускага мату, рускай водкі, рускіх рэвалюцый, рускіх супярэчнасьцяў, рускіх утопій, рускіх камісараў, рускай цэнзуры, рускіх тэхналогій, рускіх лукашэнкаў. Мы стаміліся ад рускай балбатні, ад рускай гісторыі і рускай літаратуры, ад рускай дыктатуры і рускай дэмакратыі. Мы стаміліся ад "старэйшага брата". Нас, беларусаў, проста ванітуе ад такога "сваяка".

Руская экспансія за апошнія сто гадоў высмактала нашы жыцьцёвыя сілы. Нас усяго 10 мільёнаў, за 50 гадоў пасьля вайны мы не перавысілі сваю даваенную колькасьць.

Мы хочам жыць самі. Няхай бедна, але ціха, спакойна, утульна! Упарта працаваць і вучыцца цывілізацыі ў па-сапраўднаму цывілізаваных народаў.

Мы хочам Незалежнасьці!

Жыцьцё нашых дзядоў, нашых бацькоў і наша жыцьцё прайшло марна. Але мы хочам будучага для нашых дзяцей і ўнукаў. І таму мы за Незалежнасьць! За сваю дзяржаву Беларусь!

Нам не патрэбна хунта расейскіх халуёў. Мы памятаем словы Каліноўскага: "...тады толькі зажывем шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе".

Будзем жа жвірам у падшыпніках рускай машыны.

**Кастусь ТРАВЕНЬ.**

## НЯЎЖО Ў ПОСАХАВА ДЗЬВЕ СЯМ'І?

У "Свабодзе" была надрукавана інфармацыя пра тое, як прэзідэнцкі дарадца Сяргей Посахаў паскардзіўся карэспандэнту, што не атрымаў яшчэ кватэры ў Менску і вымушаны жыць у інтарнаце з сям'ёй. "ПАГОНЯ" мае зьвесткі, што жонка Сяргея Аляксандравіча жыве ў прыватызаванай Посахавымі кватэры ў Горадні. З якой жа тады сям'ёй можа жыць галава сям'і у Менску?

## НЕ ІНТЭГРАЦЫЯ, А ПАГЛЫНАНЬНЕ

**Зараз вельмі модна спасылацца на краіны Захаду, якія інтэгруюцца. Апошні раз гэта спасылка была выкарыстана міністрам замежных спраў Беларусі, спадаром У.Сянько ў гутарцы з карэспандэнтам газеты "Звязда" (гл."Звязда" за 20.04.96 г.). Нават адукаваны чалавек, які правільна сказаў, чаму Польшча шукае абароны ад рускіх у абдымках НАТА, не сказаў праўду аб тым, чаму інтэграцыя заходніх краін магчымая, а ў выпадку Беларусі і Расеі можа быць толькі паглынаньне большым ("старэйшым") братам меншага (*"малодшага"*).**

Там інтэграцыя рэальная, бо немцы паважаюць французкую культуру і мову, і наадварот. Прэзідэнт Францыі не гаворыць на мове суседняй дзяржавы, выказваючы непавагу да роднай мовы. Вось калі б немцы пасьля перамогі ў франка-прускай вайне пратрымалі Францыю пад акупацыяй да 1991г., забараняючы вывучэньне французкай мовы і адкрываючы выключна нямецкія школы, з інтэграцыяй Нямеччыны з Францыяй былі б вялікія цяжкасьці, пакуль французкая нацыя не адрадзіла б сваю мову і культуру.

Раней чым аб'ядноўвацца, трэба разьдзяліцца і аднавіць сваё. Толькі ў такім выпадку інтэграцыя можа быць раўнапраўнай. Калі аб'ядноўваецца нацыя аслабеўшая (не па сваёй віне) з моцнай, нават шавіністычнай, дык ніякага раўнапраўя быць ня можа.

Мацнейшы эканамічна, больш сьвядомы нацыянальна проста праглыне свайго "малодшага" брата. Дзеля ўладаньня стратэгічнай прастораю братоў ня толькі праглыналі, але і забівалі.

Заходнія дзяржавы маюць амаль аднолькавы эканамічны патэнцыял, моцную нацыянальную сьвядомасьць. Паспрабуй сказаць нешта дрэннае аб каланіяльнай Англіі і паглядзіш, ці хто ўратуе ад бойкі. А нам сотні гадоў хлусілі, што нас заваявалі літоўскія феадалы. У выніку, шмат хто паверыў у сваю ніжэйшасьць, не задумваючыся нават, чаму ВКЛ арганізавалася на Наваградчыне не сярод жмудзінаў, а сярод славян, называўшых сябе ліцьвінамі, а пасьля, мо дзеля добрых адносін з рускімі, - беларусамі.

Англія з Францыяй ваявалі з сабой у апошні раз мабыць пры Напалеоне Банапарце. Ды нешта Англія не сьпяшаецца з інтэграцыяй, як А.Лукашэнка, за пару месяцаў. А нас заваёўвалі і 200 і 60 гадоў таму. Сьвядомых беларусаў павывозілі ў Сібір, а сюды панаслалі няведама каго, і яны зараз камандуюць, як нам жыць.

**А.БАХАНЧЫК.**

## СВАБОДА ПЕРАМОЖА НАСІЛЬЛЕ

**1 траўня перад Генеральным Консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку быў арганізаваны пікет супраць парушэньня грамадзянскіх праў у Беларусі. Прысутнічала 50 чалавек. Пікет узначальвалі пасол Сейму ад Уніі Працы пан Артур Смулко і дзейч Беларускага Дэмакратычнага аб'яднаньня Алег Латышонак. Удзельнікі скандзіравалі "Жыве Беларусь", "Спыніць рэпрэсіі" і "Вольная Беларусь".**

А.Смулко і А.Латышонак прапанавалі зварот, які падпісваўся прысутнымі. Вось яго тэкст:

"Свабода пераможа насільле.

Мы, ніжэйпадпісаныя ўдзельнікі пікету каля Консульства Рэспублікі Беларусь, выказваем рашучы пратэст супраць жорсткіх дзеяньняў уладаў Беларусі, ужытых да мірных дэманстрантаў у Менску. Варварскія дзеяньні міліцыі да дзяцей, моладзі, жанчын, апазіцыйных палітыкаў будзяць у нас найгоршыя асацыяцыі. Такі спосаб вырашэньня ~~унутраных праблемаў~~ супярэчыць дэмакратыі, грамадзянскім правам і нормам цывілізаванага грамадзтва. Толькі ўлада слабых б'е сваіх грамадзян. Патрабуем скончыць прасьледаваньні і вызваліць незаконна арыштаваных. Верым, што насільле прайграе свабодзе".

У бліжэйшыя дні гэты зварот адкрыты да падпісаньня. Па заканчэньню пікету быў спалены партрэт Прэзідэнта Беларусі. За пікетам назіралі каля 10 паліцыянтаў і рэпарцёраў. З Консульства да пікетчыкаў ніхто ня выйшаў.

**Алег КАТЫНЬСКІ.**

## ЮРЫ ЗАХАРАНКА БОЛЕЙ НЕ МІНІСТР

**Вярхоўны Савет на паседжаньні 4 траўня вызваліў Ю.Захаранку ад пасады міністра ўнутраных спраў і зацьвердзіў міністрам В.Агальца.**

Захаранка спрабаваў данесьці да дэпутатаў сваё адчуваньне небясьпекі, зьвязанае з Масавым і безсаромным парушэньнем законнасьці з боку выканаўчай улады. Аднак разьлічваць на спачуваньне камуна-аграрыяў - толькі марнаваць час. На Захаранку выкарысталі той жа набор метадаў, як і на Шушкевічу: крадзёж "цьвікоў", абвінавачваньні ў няўменьні працаваць і выкрыцьцё нейкіх антысацыяльных памкненьняў, якімі нібыта апантаны былы міністр.

Параза Захаранкі была абумоўлена тым, што ён мае дастаткова годнасьці, каб ня пэцкацца ў брудзе "самай чэснай каманды". У той жа час ягоны сьветапогляд уяўляе самабытную мешаніну ідэй сацыяльнай справядлівасьці і змовы ворагаў супраць народу. З такім характарам можна знайсьці сяброў сярод операў крымінальнага вышуку, але не сярод палітыкаў, бізнэсмэнаў альбо прафесійных слуг народу. Нешта падобнае здарылася з панам Б.Казаньнікам, калі таго Ельцын зрабіў Генеральным пракурорам Расеі. Казаньнік, праўда, пасьля двух месяцаў зьбёг па ўласнай волі. Сумленнасьць абодвух не выклікае сумненьняў, але хто з іх больш наіўны, сказаць цяжка.

Самы непасрэдны ўплыў адстаўка Захаранкі мае перш за ўсё на лёс старшыні Канстытуцыйнага Суду В.Ціхіні. Ён апошні, хто стварае рубеж на шляху ў дрыгву прававога бязьмежжа. Ціхіню чакаюць непрыемнасьці, але якія - прадказаць немагчыма.

**Сяргей САМАСЕЙ.**



## ЗВАРОТ ДА ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, сябры гістарычна-культурнага таварыства "Паходня" (г.Горадня) выказваем глыбокае абурэньне дзеяньнямі праваахоўных ворганаў у адносінах да ўдзельнікаў "Чарнобыльскага шляху-96". Па нашаму перакананьню дзеяньні прадстаўнікоў улады вызначыліся непатрэбнай агрэсіўнасьцю і жорсткасьцю і абразілі пачуцьці людзей у гадавіну Чарнобыльскай катастрофы.

Затрыманьне шэрагу вядомых грамадзкіх дзеячаў, перашкоды ім у атрыманьні адваката мы разумеем як спробу ціску на палітычную апазіцыю, не сумяшчальную са статусам прававой дзяржавы.

Адказнасьць за праявы гвалту ў час "Чарнобыльскага шляху" ляжыць, па нашых перакананьнях, на тых, хто стварыў перашкоды для свабоднага выказваньня людзьмі іхніх пачуцьцяў і думак у дзень агульнанароднага смутку.

**М.Таранда , А.Жукоўскі, усяго больш за 20 подпісаў.**

## "ДЫПЛАМАТ" ШАРЭЦКІ

**4 траўня ў галоўным выпуску навін польскае тэлебачаньне паведаміла, што пад час сесіі Вярхоўнага Савету Беларусі сьпікер парламанту Сямён Шарэцкі згадаў Польшчу, як краіну, якая на працягу стагоддзяў была прыгнятальніцай беларусаў, і толькі пры савецкай уладзе мы пачалі разьвівацца.**

Веданьне нашымі кіраўнікамі гісторыі роднага краю на ўзроўні жахлівых казак пра гаротнае жыцьцё беларускага народу да кастрычніцкай рэвалюцыі, ужо нікога не зьдзіўляе. Але навошта выяўляць сваю неадукаванасьць у парламаньце? Зразумела, што гэтыя выказваньні былі зроблены для таго, каб паказаць свае негатыўныя адносіны да Польшчы. Нашы суседзі гасьцінна прымалі Пазьняка, падзеі 26 красавіка падрабязна асьвятляліся польскімі СМІ, уплывовыя палітычныя сілы выказалі пратэст супраць парушэньня правоў чалавека і падтрымалі дэмакратычную апазіцыю на Беларусі.

На гэты "дыпламатычны" выбрык беларускага палітыка можна было б не зьвяртаць увагі, каб яго не зрабіў старшыня Вярхоўнага Савету. Шарэцкі пазбавіў ілюзій тых, хто спадзяваўся на парламант, як на сілу, якая можа спыніць прэзідэнта. Старшыня ВС паказаў, што будзе верна служыць "всенародно избранному", пакуль Лукашэнка яго не выкарыстае і ня выкіне, як іншых, хто зьбіраўся зрабіць кар'еру каля Рыгоравіча.

У тым самым паведамленьні польскага тэлебачаньня было сказана, што Управа Народнага Фронту назвала словы Шарэцкага абразьлівымі як для беларускага, так і для польскага народу. Дзякуючы бязглуздым паводзінам сьпікера, апазіцыя пашырае кола сваіх прыхільнікаў у сьвеце.

**Д.КІСЕЛЬ.**

## НІКОЛІ БОЛЕЙ СССР!

**Ня толькі ў Беларусі людзі пратэстуюць супраць зьнішчэньня незалежнасьці нашай краіны. У Лондане адбылося пікетаваньне беларускага пасольства. Жыхарам ангельскай сталіцы, для тлумачэньня, раздавалі ўлёткі наступнага зьместу:**

БЕЛАРУСЬ - КРАІНА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ ХВОРЫ НА МАСКВУ

Мы, беларусы Вялікай Брытаніі і брытанскія сябры беларусаў, выказваем нашу поўную падтрымку ўсім тым, хто ўчора выйшаў на вуліцы сталіцы Менску на дэманстрацыю, для пратэсту супраць саюзу нашай краіны з Расеяй.

Мы пытаем у пасла Беларусі:

- Вы бачылі тэкст саюзнага дагавору?
- Хто-небудзь з акружэньня Ельцына і Лукашэнкі бачыў тэкст?
- Ці быў да гэтага тэкст у парламантарыяў кожнай краіны?
- Колькі з тых людзей, якія выйшлі на дэманстрацыю ў падтрымку Лукашэнкі і саюзу з Расеяй выйшлі па сваёй волі?

Мы зьвяртаемся да парламанту Беларусі, каб ён меў мужнасьць устаць за дэмакратыю.

Мы супраць продажу нашай краіны Юдам Лукашэнкам.

Ніколі болей СССР!

Мы спадзяемся, што грамадзтва Вялікабрытаніі падтрымае імкненьне народу Беларусі стварыць сапраўды незалежную дэмакратычную дзяржаву ў Эўропе.

**Ад рэдакцыі: 4 траўня Вярхоўны Савет ратыфікаваў ганебнае пагадненьне ад 2 красавіка.**

## *АНЕКДОТЫ ПРА ІЛЬІЧА*

Сядзіць на пяньку Ільіч, есьць "біг-мак". Прыходзіць галодны падлетак: "Дзядуля, дай адкусіць".

- Валі адсюль, жабрак няшчасны! - адказаў Ленін. І пяшчотна пагладзіў падлетка па галаве.

* * *

У Крамлі суботнік. Ільіч з Феліксам Эдмундавічам палезлі запускаць куранты на Спаскай вежы. Ленін вазьмі ды й спіхні Дзяржынскага на брук Чырвонай плошчы. Глядзіць правадыр на рэшткі чакіста і расчаравана гаварыць : "А казалі, жалезны Фелікс..."







# КІРАЎНІЦТВА МУС РУБІЦЬ СУК...

**Як стала вядома "ПАГОНІ" з дасьведчаных крыніц, работнікі міліцыі вельмі зьбянтэжаныя падзеямі, што адбыліся ў Менску ў сакавіку-красавіку гэтага году зьвязаныя са зьбіцьцём дэманстрантаў. Міліцыянтаў, асабліва афіцэраў, турбуе тое, што іх прымушаюць выконваць ролю пярунаадводу ў стасунках улады і народу.**

На нашу думку, ёсьць дзьве асноўныя прычыны. Першая -гістарычная. Міліцыя існавала заўсёды як "народная", і гэта пачуцьцё ў яе шэрагах песьцілася начальствам і палітрукамі. Сёньня міліцыянтам ніякавата зьбіваць людзей, ад якіх за кіламетр нясе не гарэлачным перагарам, а менскімі і маскоўска-піцерскімі ўніверсітэтамі. Другая - гуманітарная. У міліцыі за апошнія часы стала дастаткова многа адукаваных юрыстаў. Для іх законнасьць складае асноўны сэнс працы. Законы для іх не сьвятыя, канешне, але ж не да такой ступені, каб крышыць косьці бабулькам.

Асабліва іх непакоіць тое, што спрадвечныя прыярытэты міліцэйскай службы сьпіхнутыя на апошнія пазіцыі. Гэта значыць, што апараты крымінальнага вышуку, АБЭЗ і сьледчыя цяпер не атрымліваюць і паловы той увагі, якая надаецца сёньня ўнутраным войскам. Пытаньні аператыўнага вышуку, агентуры, крымтэхнікі лічацца другараднымі. Кіраўнікі ўзгаданых службаў, якія раней адыгрывалі першыя ролі ў кіраўніцтве МУС, зараз ходзяць у пасынках.

Аднак баец з гумовай дубінкай і шчытом бяззбройны перад арганізаванай злачыннасьцю. Ён ня здолее выкрыць нават крадзёж кур ці хабар для сантэхніка. У выніку, міліцыя ня ў стане знайсьці лімузін прэм'ера, ня тое што калымагу якога-небудзь рабацягі.

Ідзе мэтанакіраванае разбурэньне міліцыі і яе пераарыентацыя на вулічна-дрынавы стыль дзеяньня.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ПАД ЗНАКАМ ЭКУМЕНІЗМУ

**Міжнародны навукова-душпастарскі сімпозіум па гісторыі і праблемах каталіцтва, што адбыўся днямі ў горадзе, прайшоў пад знакам экуменізму. Гэта асабліва важна, бо асноўную частку прысутных на канферэнцыі складалі вернікі і семінарысты.**

Менавіта апошнія, стаўшы сьвятарамі, будуць фармаваць хрысьціянскую сьвядомасьць люду. А замірэньне ўсіх канфесій на досьвітку трэцяга тысячагоддзя існаваньня хрысьціянства - рэч першаступенная.

Грунтоўныя спавешчаньні на сімпозіуме мелі госьці з Польшчы, мясцовы ксёндз Антані Дземянка. Дыскусію на добрай беларускай мове вёў Тадэвуш Кандрусевіч - колішні гарадзенскі біскуп. Дзіўна толькі, што не запрасілі да ўдзелу навукоўцаў з гарадзенскага універсітэту.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**




# КРЫШТАЛЬНЫ "ШМОН"

**Крыштальныя ды іншыя вырабы шклозавода, што ў Бярозаўцы Лідзкага раёну, даўно карыстаюцца вялікім попытам ня толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. І таму, калі пад загрузку стаў КамАЗ з расейскімі нумарамі адной з камерцыйных фірмаў Растова-на-Доне, нікога гэта не зьдзівіла. Расейцы, аформіўшы неабходныя паперы і загрузіўшы поўны кузаў крышталю, з лёгкім сэрцам накіраваліся дахаты. Ведалі б яны, што яшчэ ад прахадной завода знаходзяцца пад пільным вокам злачынцаў...**

Хуткі "Опель" нібы ляцеў па начной трасе. Калі наперадзе паказаліся габарытныя агні КамАЗа, пасажыры іншамаркі, двое 24-гадовых жыхароў Оршы, ажывіліся - вось яна, доўгачаканая сустрэча. Аб'ехаўшы грузавік, адзін з хлопцаў паказаў рукой спыніцца. І каля вёскі Дакудава Лідзкага раёну, пасярэдзіне цёмнай начной дарогі, даверлівы расеец націснуў на тормаз. "Можа якая дапамога патрэбна?" - толькі і пасьпеў падумаць растрачанін, як у кабіну груба лаючыся і пагражаючы пісталетам залез малады хлопец. Што ён не жартуе, стала зразумела, калі рабаўнік стрэліў з пісталета ў паветра і разьбіў некалькі карабоў з крышталём. Сабраных грошай аказалася мала і недахоп "наяўнай валюты" налётчыкі вырашылі кампенсаваць таварам. Адагнаўшы КамАЗ у лес, злачынцы перакінулі некалькі дзесяткаў карабоў крышталю ў свой "Опель" і загадаўшы не высоўвацца, зьніклі ў цемры.

Адразу пасьля заявы пацярпелых у вобласьці быў уведзены сьлецыяльны план. Не прайшло і дзьвюх гадзін, як супрацоўнікі міліцыі затрымалі падазроную іншамарку ў... Бярозаўцы. Начныя рабаўнікі разгрузілі шкло ў свайго сябра і ва ўсю сьвяткавалі добра праведзеную "справу".

У колькі абыйдзецца аршанскім "гастралёрам" "крыштальны звон" -адкажа суд.

**Г.ХАЛЯНКОЎ.**

# ЦІ ЛЁГКА ДАБІЦЦА ПРАЎДЫ Ў СУДЗЕ?

**У красавіку гэтага году судом Смаргонскага раёну разгледжана справа па іску былога дырэктара рэстарана "Вілія" В.М.Хацятоўскай аб аднаўленьні на працы. Звальненьне, якое было зьдзейсьнена аж у 1992 годзе, прызнана судом незаконным аж у чацьвёрты раз!**

Адна з прычын гэтай гісторыі — удзел у справе гарвыканкаму, які прыняў неабгрунтаванае рашэньне аб ліквідацыі камбінату грамадзкага харчаваньня, у склад якога ўваходзіў рэстаран, у той час, калі на самой справе адбывалася яго рэарганізацыя. Таму В.М.Хацятоўская патрабавала спагнаць з гарвыканкаму 30 мільёнаў рублёў у пакрыцьцё маральнай шкоды. Але ж які суд асьмеліцца з сучаснай выканаўчай улады спагнаць урон? Таму ў дадзенай частцы іск Хацятоўскай быў адхілены. Маўляў, яна "не подтвердила, какой именно вред ей причинён умышленными действиями Сморгонского горисполкома". Вядома ж, маральны, бо чалавек больш трох гадоў бяз працы.

Але ў суду іншая логіка. Ён, акрамя таго, лічыць, што паколькі гарвыканкам прымаў рашэньне аб ліквідацыі камбінату грамадзкага харчаваньня ня з мэтай зваленьня Хацятоўскай, то маральную шкоду няма з каго спагнаць. Такая выснова суду прыкладна тое ж самае, калі вызваліць ад адказнасьці вадзіцеля, што парушыў правілы дарожнага руху не з мэтай зьбіцьця пешахода, але ўсё ж пакалечыў яго.

Гэтая справа - яскравы прыклад заняпаду ўлады, бо ігнаруецца канстытуцыйны прынцып пабудовы прававой дзяржавы; чулых адносінаў чынавенства да канкрэтнага чалавека.

**А.ДЗЕРГАЧОЎ.**

# ГАРМІДАР НА КОЛАХ

**Яшчэ не было 8 раніцы, а чарга на рэгістрацыю аўтатранспарту ў ДАІ перавышала паўкіламетра і загібалася за канечны прыпынак аўтобуса N 20. Машыны прыбывалі. Пад бокам ДАІ на вул.Белуша ў Горадні нагрувашчваньне машын стварала падставы для аварыйных сітуацый. Стаялі нават пад забараняючым прыпынак знакам.**

Уладальнікі аўтамабіляў чакаюць, каб зьняць машыну з уліку, альбо паставіць на ўлік. ДАІ устанавіла для рэгістрацыі чатыры дні на тыдзень. Гэтага не хапае. Некаторыя прыязджаюць па некалькі разоў, бо ў іх свая праца і свой час. А час, як вядома, грошы.

Пастаноўка на ўлік з атрыманьнем нумару каштуе больш паўмільёна рублёў. Большасьць аўтаўладальнікаў ніякія не "новыя беларусы". Каб заплаціць ДАІ, ім трэба працаваць больш за тыдзень. І ў дадатак за ўласныя грошы марнаваць жыцьцё ў чэргах.

*Як патлумачылі карэспандэнту "ПАГОНІ" у рэгістрацыйна-экзаменацыйным аддзяленьні ДАІ,* чэргі абумоўлены наплывам аўтамабіляў з-за мяжы. Аддзяленьне займаецца ня толькі рэгістрацыяй аўтамабіляў, але таксама вялікай колькасьцю іншых спраў. Яшчэ ў мінулым годзе было прынята рашэньне за кошт сродкаў мясцовага бюджэту павялічыць дастаткова сьціплы штат супрацоўнікаў РЭА. Аднак з-за недахопу грошай павялічэньне не адбылося.

# АКЦЫЯ "МІЛАСЭРНАСЬЦЬ"

**Ленінскі і Кастрычніцкі раённыя аддзелы і ўстановы адукацыі горада, камісіі і інсьпекцыі па справах непаўналетніх, праваахоўныя ворганы, абласное аддзяленьне дзіцячага фонду з 25 красавіка па 25 траўня праводзяць месячнік "Клопат". Яго мэта - ахова правоў дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў або ня маюць належных умоў выхаваньня ў сям'і.**

У гэты тэрмін будуць удакладняцца сьпісы дзяцей да 18 гадоў, якія засталіся без апекі бацькоў, а таксама непаўналетніх з неблагапалучных, шматдзетных і малазабясьпечаных сем'яў. У неабходных выпадках рашэньнямі выканкамаў над імі будзе ўстаноўлена апека.

Значная падзея месячніка - унутрышкольныя акцыі "Міласэрнасьць" па аказаньню дапамогі дзецям, якім яна вельмі патрэбна.

15 траўня ў кожнай школе горада пройдуць бацькоўскія сходы, прысьвечаныя Сусьветнаму Дню сям'і, а ў тэатры лялек у 17 гадзін пройдзе вечарына з гэтай нагоды.

Завершыцца месячнік правядзеньнем 1 чэрвеня агульнагарадзкога сьвята, прысьвечанага Сусьветнаму Дню аховы дзяцей.

**Валянціна ЛЕБЕДЗЕВА.**

# ЗЛОТЫЯ НА ПОЛЬСКУЮ ШКОЛУ

Каля 22 мільёнаў старых злотых (каля тысячы долараў) на будаўніцтва польскай школы ў Горадні сабралі вучні агульнаадукацыйнага ліцэю ў мястэчку Сьвінавусьце на польска-нямецкай мяжы. Грошы былі сабраныя пад час двухгадзіннага дабрачыннага канцэрту, на які былі запрошаныя былыя вязьні сталінскіх лагераў, "акоўцы", а таксама выхадцы з Гарадзеншчыны, Віленшчыны і Львоўшчыны.

**В.АНІМУЦКІ.**

# "ДЕМБЕЛЯ" ХОЧУЦЬ ДАХАТЫ. *ВАЕНКАМАТЫ ЧАКАЮЦЬ УКАЗУ*

**Звычайным тэрмінам прызыву на тэрміновую службу ў войска зьяўляецца канец красавіка. На двары травень, аднак прызыў яшчэ не пачынаўся. Няма Указу Прэзідэнта, на падставе якога міністэрства абароны пачне прызыў. Ваенкаматы пакуль што праводзяць медыцынскі агляд прызыўнікоў.**

Затрымка з Указам выклікана рашэньнем пытаньня аб коле асоб, якім можа быць дадзеная адтэрміноўка ад прызыву. Падпісаньне Прэзідэнтам указу чакаецца з дня на дзень.

Разам з тым, затрымліваецца звальненьне ў запас вайскоўцаў, якія выслужылі тэрмін службы.

**РЫНАК ДЭПАЗІТАЎ**

# АГЛЯД УМОВАЎ ПРЫНЯЦЬЦЯ ЎКЛАДАЎ АД ФІЗІЧНЫХ АСОБАЎ ПА БАНКАХ ГОРАДНІ

Ашчадбанк **"Беларусбанк"** прымае ўклады ад насельніцтва на дэпазіт тэрмінам на адзін месяц пад 4% даходу. Сума ўкладу не абмежавана (калі не лічыць устаноўленага мінімуму ў 50 000 рублёў). Пасьля сканчэньня тэрміну ўклад мусіць быць пераафармлены. Памер даходу (працэнтаў) можа быць зьменены ў залежнасьці ад стаўкі рэфінансаваньня, устаноўленай Нацбанкам Беларусі. Аднак працэнт не зьмяняўся ўжо больш за паўгода. Акрамя таго, банк імкнецца пазьбягаць зьмен пад час дзеяньня месячнага тэрміну дэпазітнага ўкладу.

Банк **"Комплекс"** прымае ўклады ад фізічных асобаў тэрмінам на 1 месяц. Даход з разьліку 51% гадавых (4,25% у месяц). Мінімальны ўклад - 300 000 рублёў. Па сканчэньні тэрміну ўклад аўтаматычна пераафармляецца, пры гэтым даход залічваецца ў капітал і на агульную суму налічваецца працэнты.

АКБ **"Приорбанк"** прымае сродкі насельніцтва ў выглядзе тэрміновага ўкладу на 6 месяцаў. Памер мінімальнай сумы 1 млн. рублёў. Даходы выплочваюцца з разьліку: за 1-шы і 2-гі месяцы - 48%; за 3-ці і 4-ты месяцы - 54%; за 5-ты месяц - 60%; за 6-ты - 66% гадавых. Банк мае права ў аднабаковым парадку зьмяніць працэнтную стаўку (у выпадку зьмяненьня ўліковай стаўкі Нацбанкам).

**"Белпрамбудбанк"** з 2 траўня ўстанавіў наступныя ўмовы. На ўклад у памеры 1 млн. рублёў і болей налічваецца даход з разьліку 48% гадавых (4% у месяц). На ўклад звыш 20 млн. рублёў - 54% гадавых (4,5% у месяц). Тэрмін - адзін месяц. За гэты тэрмін памер працэнту не зьмяняецца. Магчымы залічэньне і пераліч рахунку ў безнаяўным разьліку.

**"Белбізнэсбанк"** выплочвае па месячных укладах 4,25%. Пад час месячнага тэрміну працэнт не зьмяняецца. Мінімальны ўклад - 300 000 рублёў. За афармленьне разьліковай кніжкі бярэцца плата 10 000 рублёў. Не запатрабаваны своечасова ўклад пераводзіцца на ўклад да запатрабаваньня.

**"Белжелдарбанк"** часова ўклады не прымае.

Кіраўніцтва "Прафбанку" зьвесткі аб умовах разьмяшчэньня ўкладаў даць адмовілася без тлумачэньня прычын. З чаго б гэта, панове абаронцы правоў працоўных?

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ЛІДЗКАЯ МЭБЛЯ ПАЕХАЛА Ў ФРАНЦЫЮ

Партыя мэблі днямі адгружана Лідзкай мэблевай фабрыкай у Францыю. Гэта кухонныя гарнітуры, якія пачалі выпускацца ў Лідзе месяцы два таму. Прадстаўнікам французкай фірмы спадабалася якасьць мэблі, сучасны дызайн і, асабліва, экалагічна чыстая сыравіна. Партыя прызначана для вывучэньня попыту. Станоўчыя вынікі стануць перадумовай падпісаньня канчатковай дамовы.

**С.СУДНІК.**

# ВАЛЮТНЫ КАЛІДОР І ЧОРНЫЯ ВЫХАДЫ

Усё больш праблематычна, а дакладней, практычна немагчыма становіцца набыць валюту. Урад, загнаўшы долар у валютны калідор, не спраўляецца з задачай забесьпячэньня насельніцтва "танным" доларам.

Попыт стала пераважае прапанову. У банках ды абменных пунктах валюты проста няма. Затое яна ёсьць на чорным рынку. Гэтыя чорныя выхады з валютнага калідору - сапраўдны выхад для людзей, якім неабходна нешта сур'ёзнае купіць, бо не сакрэт, што асноўныя разьлікі паміж людзьмі ідуць у "зялёных". Праўда, курс тут даўно з "калідора" выйшаў і падбіраецца ў Лідзе да адзнакі 15 000 рублёў за долар.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

# 105-Я ЎГОДКІ

## АЎТАРА БЕЛАРУСКАГА СЬЦЯГА

Вясновым днём 1891 году ў мястэчку Глыбокае ў шляхетнай каталіцкай сям'і Душэўскіх пасьля чатырох дачок нарадзіўся доўгачаканы сын. Сёньня ўжо цяжка абсалютна ўпэўнена назваць дакладную дату гэтай падзеі, бо дакументы таго часу, на жаль, не захаваліся. Сямейнае ж паданьне гаворыць так: шчасьлівым бацькам, людзям рэлігійным, належала даць дзецям імя таго сьвятога, які прынёс ім такога жаданага хлопчыка. Аднак высьветлілася адна акалічнасьць: у касьцельных кнігах і каляндарах на дзень яго нараджэньня было адно жаночыя імёны. Аднак толькі ў адным старым і вельмі рэдкім малітоўніку пашанцавала адшукаць мужчынскае імя Клаўдзіюш. Сына ахрысьцілі ў глыбоцкім касьцёле 26 красавіка і гэты дзень родныя заўсёды адзначалі як дату нараджэньня Клаўдзія Сьцяпанавіча.

Сям'я Душэўскіх належала да патомнай, хаця й небагатай беларускай шляхты. Ягоны бацька і дзед былі прафесійнымі будаўнікамі: будавалі касьцёлы, дамы, дарогі і масты на Глыбоччыне. І, *натуральна, яны стараліся* перадаць юнаку сакрэты свайго майстэрства, выхоўвалі ў ім кемлівасьць і працавітасьць. "Ад раньніх гадоў майго юнацтва, -згадваў пазьней Клаўдзій Сьцяпанавіч, - я бываў на будоўлях, працаваў памочнікам майстра, чарціў, рабіў каштарысы на дамы, касьцёлы, будынкі, дарогі і невялікія масты. Будучы вучнем старэйшай клясы, я ўжо кіраваў невялікімі будаўнічымі работамі і паводле ўказаньняў свайго бацькі рабіў праекты".

Продкі К.С.Дуж-Душэўскага, абараняючы вольнасьць Айчыны і ўласны гонар, вызначыліся ў мінулым стагоддзі ў шэрагах барацьбітоў за вольнасьць Беларусі ад імперскай навалы. У маленстве ён чуў апавяданьні пра свайго прадзеда з боку маці, шляхціча Полацкага павету Урублеўскага, які загінуў у антыцарскім нацыянальна-вызваленчым паўстаньні 1830-31 г.г., а таксама пра дзеда Высоцкага, што паклаў галаву ў паўстаньні К.Каліноўскага ў 1863 г. у час новага патрыятычнага выступленьня беларусаў разам з палякамі і літоўцамі супраць расейскага ўціску.

Вялікія сямейныя традыцыі і годнае выхаваньне паспрыялі ўдаламу спалучэньню ў характары Клаўдзія Душэўскага гатоўнасьці самаахвярна служыць высокім грамадзкім ідэалам і жыцьцёвай напорыстасьці, адданасьці працаваць на ніве беларускага нацыянальнага Адраджэньня, цягавітасьці, звычкі штодзённай працай зарабляць на кавалак хлеба.

Потым, дасягнуўшы адпаведнага ўзросту, з ціхага мястэчка Глыбокае, К.Душэўскі трапляе ў шматгалосую і шматнацыянальную Вільню, дзе паступае ў рэальнае вучылішча. У такой навучальнай установе паглыблена вывучаліся прыродазнаўчыя і фізіка-матэматычныя дысцыпліны. Гэта давала права паступленьня ў вышэйшыя тэхнічныя і сельскагаспадарчыя ВНУ. У Вільні яму трапляе ў рукі зборнік Ф.Багушэвіча "Смык Беларускі" і газета "Наша Ніва", а недзе ў 1910 г. лёс зводзіць К.Душэўскага таксама з земляком-глыбачанінам Вацлавам Ластоўскім, потым з братамі І.і А.Луцкевічамі, ды іншымі дзеячамі беларускага Адраджэньня. Гэта назаўсёды вызначыла накірунак яго далейшага жыцьцяпісу. Аднойчы К.С.Дуж-Душэўскі быў запрошаны ў рэдакцыю газеты "Наша Ніва", дзе, паводле ягоных успамінаў, выказаў у час размовы меркаваньне, што беларусы маюць бедную гісторыю. "Раптам, - успамінаў Клаўдзій Сьцяпанавіч, - скуль узяўся чалавек лысы, ніягалены, з круглым чалом, і ідучы яшчэ, паднятым голасам стаў гаварыць: "Як мы ня маем гісторыі? Скажыце, калі ласка, хто мае багацейшую гісторыю, чым мы, беларусы?" Адразу ён мне насыпаў так шмат, што перавярнуў усю маю гістарычную веду дагары нагамі, і я павінен быў, прызнацца, што гісторыі я ня ведаю. Гэта быў В.Ластоўскі". З гэтага пачалося знаёмства К.Душэўскага з адным з апосталаў беларускага Адраджэньня, якое перарасло затым у сталае супрацоўніцтва на палітычнай і культурнай ніве, шчырае шматгадовае сяброўства.

У 1912 г. К.С. Дуж-Душэўскі паступае ў вядучую на той час вышэйшую тэхнічную навучальную ўстанову Расейскай Імперыі - Пецярбургскі горны інстытут. Разам з землякамі, студэнтамі Пецярбургскага ўніверсітэту, ён актыўна ўдзельнічае ў працы беларускага навукова-літаратурнага гуртка, распрацоўвае тэму пра вывучэньне і ахову старажытных і гістарычных помнікаў. У 1914г. К.Душэўскі ўдзельнічае ў выданьні часопіса беларускай студэнцкай моладзі "Раніца", у якім зьмяшчае і ўласныя матэрыялы. У Пецярбургу яму даводзілася сустракацца з вядомым ужо на той час беларускім паэтам Янкам Купалам. У пастаноўцы студэнцкага гуртка выканаў ролю Сьцяпана Крыніцкага ў купалаўскай "Паўлінцы". У яго склаліся прыязныя адносіны і з самім Я.Купалам.

З дзейнасьцю К.С.Дуж-Душэўскага ў Пецярбургу зьвязана гісторыя аднаго з нашых нацыянальных сімвалаў - бел-чырвона-белага сьцяга, які быў дзяржаўным сьцягам Беларускай Народнай Рэспублікі, а з 1991 году зацверджанага ў гэтай якасьці і для Рэспублікі Беларусь. У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай ў 1934 г., Душэўскі паведамляў: "Цікава адзначыць, што беларусы ўважалі сваім дзяржаўным сьцягам той, што й літоўцы, г.зн. белую Пагоню на чырвоным полі, але нацыянальнага сьцяга не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага сьцяга, і адзін з іх быў прыняты, менавіта: бел-чырвона-белы. Ад таго часу гэты сьцяг і лічыцца за беларускі нацыянальны сьцяг". Можна меркаваць, што эскіз бел-чырвона-белага сьцяга быў створаны напярэдадні ці ў самым пачатку 1917 г., бо ўжо 12 сакавіка таго ж году ў Менску ў час нацыянальнага сьвята "Дня беларускага значка" прадаваліся відарысы гэтага сьцяга. Трэба адзначыць, што ў стварэньні сьцяга Душэўскі, як аматар роднай гісторыі, выкарыстаў назапашаныя стагоддзямі традыцыі беларускай геральдыкі і вызначаў малюнак сьцяга ў строгай адпаведнасьці з імі.

Падзеньне райсейскага царызму ў лютым 1917 г. акрыліла маладых беларускіх адраджэнцаў, абудзіла ў іх надзеі на хуткае ўвасабленьне іх запаветнай мары - аднаўленьне дзяржаўнасьці Беларусі. Для распрацоўкі тактыкі і каардынацыі дзейнасьці нацыянальнага руху ў новых варунках у Менску ў сакавіку 1917 году сабраўся зьезд беларускіх арганізацый. Ад петраградзкіх студэнтаў-беларусаў сваім прадстаўніком пасылаецца К.Душэўскі, што яскрава сьведчыць аб яго аўтарытэце. Тым часам, пасьля 10-гадовага перапынку аднаўляецца легальная дзейнасьць Беларускай сацыялістычнай грамады, якая была першай палітычнай партыяй, што паставіла сваёй мэтай абарону нацыянальных правоў беларускага народу, і К.Душэўскі без ваганьняў уступае ў яе шэрагі, а ўжо ў чэрвені 1917 г. яго выбіраюбць у склад ЦК БСГ і прэзідыума ЦК. У верасьні разам з Жылуновічам, Варонкам, Фальскім і іншымі ён прадстаўляе беларускія арганізацыі на Усебеларускай дэмакратычнай нарадзе.

Вясной 1917 г. студэнт К.Душэўскі паступае на службу ў Міністэрства харчаваньня, дзе праз некалькі месяцаў атрымлівае пасаду загадчыка аднаго з падраздзяленьняў.

Аднак кастрычніцкія падзеі 1917 году ў пэўнай ступені карэктуюць жыцьцёвыя планы і пачынаньні. Пасьля скасаваньня міністэрства стрчавае сталае месца працы і даводзіцца шукаць новыя прыработкі. Потым удалося працаўладкавацца ў Беларускі нацыянальны камісарыят -аддзел Наркамату па справах нацыянальнасьцяў РСФСР. Тут К.Душэўскі ўзначаліў бежанскі аддзел, бо шмат было беларусаў, раскінутых першай сусьветнай вайной па бязьмежных абшарах Расеі. Але ў маладога беларускага адраджэнца была ў душы пэўная нязгода з бальшавіцкімі метадамі работы, непакоіла таксама і няпэўнасьць лёсу роднай Беларусі і К.Душэўскі вымушаны быў пайсьці ў адстаўку. У сьнежні 1917 г. па загаду мясцовага Саўнаркому ўзброеныя салдаты разагналі ў Менску ўсебеларускі кангрэс, а ў сакавіку 1918 г. паміж прадстаўнікамі Нямеччыны і бальшавіцкай Расеі ў Берасьці заключылі дамову, у якой прадугледжаны ўдзел Беларусі паміж дзьвюма дзяржавамі. Таму беларускія адраджэнцы мусілі прадэманстраваць сусьветнай грамадзкасьці, што на гэтай зямлі ёсьць законны гаспадар - беларускі народ. Актывісты, пераважна Беларускай сацыялістычнай грамады, абвяшчаюць пра ўтварэньне новай незалежнай дзяржавы Беларускай Народнай Рэспублікі. К.С.Дуж-Душэўскі ўсёй душой вітае і падтрымлівае гэты гістарычны крок і становіцца актыўным саўдзельнікам першых палітычных акцый маладой дзяржавы.

З усталяваньнем савецкай улады, 1 студзеня 1919 г. была абвешчана БССР. Студэнт К.С.Душэўскі здае тым часам апошнія іспыты ў горным інстытуце і прыязджае ў Менск, знаходзіць працу па набытай сьпецыяльнасьці. У красавіку 1919 г. ён накіроўваецца ў службовую камандзіроўку ў Вільню, а горад тым часам займаюць войскі адроджанай польскай дзяржавы. Здольнага арганізатара К.Дуж-Душэўскага беларусы Вільні ў сваім асяродку вылучаюць на адну з першых роляў. У чэрвені 1919 г. беларускі зьезд Віленскай і Гарадзенскай губерняў выбірае яго старшынём Цэнтральнай Беларускай рады Віленшчыны і Гарадзеншчыны, якая створана для прадстаўніцтва інтарэсаў беларускага насельніцтва краю. Аднак, прапольскую арыентацыю членаў рады К.С.Дуж-Душэўскі лічыць памылковай і складае з сябе абавязкі старшыні. Найлепшым саюзьнікам Беларусі ў барацьбе за дзяржаўны суверэнітэт ён лічыць незалежную Літоўскую дзяржаву. Клаўдзій Сьцяпанавіч выкладае ў Віленскай беларускай гімназіі і на беларускіх настаўніцкіх курсах, узначальвае Віленскі аддзел Саюзу спажывецкіх таварыстваў Беларускага краю, займаецца выдавецкай дзейнасьцю. У ліпені 1919 г. Клаўдзій Дуж-Душэўскі становіцца на чале камітэту Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, а ў жніўні ўдзельнічаў у стварэньні Беларускай вайсковай камісіі, якая пазьней стала працаваць у Менску. Увосень 1919 г. К.Душэўскаму давялося быць дыпламатычным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі ў краінах Прыбалтыкі, пасьля сесіі Рады БНР у Менску (сьнежань 1919 г.) - дзяржаўным сакратаром БНР ва ўрадзе Ластоўскага. Яго актыўная дзейнасьць на беларускай нацыянальнай ніве не засталася незаўважанай з боку акупацыйных польскіх уладаў, і ў пачатку 1921 году ён быў арыштаваны і на некалькі месяцаў зьняволены ў Лукішскую турму ў Вільні. Была арыштавана і яго жонка Алена Аляксееўна, з якой ён пазнаёміўся яшчэ ў студэнцкія гады ў Пецярбурзе.

Вызваліўшыся з турмы, сям'я эмігруе ў Коўна, які тады быў сталіцай Літоўскай Рэспублікі. Да 1924 г. Клаўдзій Сьцяпанавіч працаваў у Міністэрстве беларускіх справаў, якое тады існавала ў Літве, а потым -у Міністэрстве замежных справаў, Міністэрстве сувязі Літвы. У 1927 г. ён скончыў тэхнічны факультэт Літоўскага універсітэту ў Коўне, атрымаў сьпецыяльнасьць інжынера-будаўніка. У гарадах і мястэчках Літвы па праектах і пад кіраўніцтвам глыбачаніна К.С.Дуж-Душэўскага было ўзведзена шмат жылых дамоў, будынкаў культурнага і гаспадарчага прызначэньня. Як архітэктар ён меў добры заробак і лічыў сваім сьвятым абавязкам рэгулярна падтрымліваць матэрыяльна беларускі рух. Не пакідаў і сам адраджэнцкай працы, падтрымліваў сувязі з беларусамі ў Латвіі і Заходняй Беларусі. Актыўна ўдзельнічаў у жыцьці беларускай эміграцыі ў Літве, быў адным з кіраўнікоў Беларускага цэнтру ў Коўне, а з 1933 г. яго старшынём, а таксама Беларуска-Літоўскага таварыства. У 1922 г. рэдагаваў штомесячнік "Беларускі сьцяг", потым разам са сваім земляком В.Ластоўскім выдаваў часопіс "Крывіч", у адным з нумароў якога ўпершыню апублікаваў аўтограф і тэкст верша Ф.Багушэвіча "Каб я змог напісаць тое, што ў думцы..." У 30-я г.г. выдаваў і рэдагаваў часопіс "Беларускі асяродак". Часта выступаў з лекцыямі на Літоўскім радыё. З інжынерамі Гаршва і Гайгалісам рэдагаваў часопіс "Тэхніка і гаспадарка". Надрукаваў палітоўску артыкул "Беларусы і Вільня" - 1934 г. (псеўданім К.Гудас), падручнік будаўнічых работ -1930 г., "Паліва для ацяпленьня" - 1935 г. і інш.; у перакладзе на беларускую мову "Падручнік гісторыі" Віпера - 1925 г., "Батаніка" Зяленскага - 1924 г.. Супрацоўнічаў, акрамя беларускай, яшчэ з нямецкай і расейскай прэсай. Дзякуючы веданьню моў, бо акрамя беларускай, украінскай, польскай і расейскай, а таксама літоўскай, К.Душэўскі валодаў нямецкай, французкай, ангельскай і партугальскай мовамі. Гэта давала магчымасьць перакладаць і ствараць падручнікі для беларускіх школ. Разам з Вацлавам Ластоўскім склаў расейска-беларускі і беларуска-расейскі слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў.

У 1940 г. пад час савецкай акупацыі Літвы, у жніўні месяцы, К.С.Дуж-Душэўскага арыштавалі і зьнявалілі ў Ковенскую турму. Яго аднакамернікаў, напярэдадні заняцьця немцамі Коўні, бальшавікі вывезьлі ў БССР і непадалёк ад г.Чэрвеня расстралялі. Душэўскі застаўся ў жывых дзякуючы выпадковасьці: перад гэтым яго пасадзілі ў карцэр, а наглядчык, у якога былі ключы, адчуўшы небясьпеку, невядома куды зьнік.

Пасьля вызваленьня з турмы, К.С.Душэўскі працаваў інжынерам на заводзе гумавых вырабаў "Інкарас". Але ў жніўні 1943 г. немцы арыштоўваюць яго разам з жонкай за тое, што яны хавалі ў сваёй кватэры жанчыну-яўрэйку з дванаццацігадовым сынам, у пакараньне іх адправілі ў канцэнтрацыйны лагер у Правянішкесе. Дзякуючы неймаверным намаганьням сяброў, за вялікі хабар удалося дамагчыся вызваленьня.

Заканчэньне вайны не прынесла для К.Душэўскага пазбаўленьня ад далейшых пакут. 7 сьнежня 1946 г. дацэнт Каўнаскага ўніверсітэту быў арыштаваны савецкімі органамі бясьпекі. Быў кінуты на некалькі месяцаў для сьледства ў віленскія сутарэньні МДБ. Аднак, чамусьці, на гэты раз "контру" прышыць не ўдалося. Праз 5 гадоў - новы арышт. Інжынер К.С.Душэўскі, якому тады быў 61 год, як "актыўны беларускі нацыяналіст", які "у перыяд Айчыннай вайны і да арышту захоўваў антысавецкую літаратуру", па 58-м артыкуле Крымінальнага кодэксу прыгавораны Віленскім абласным судом да 25 гадоў пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці. Аднак, пасьля сьмерці Сталіна тэрмін скарацілі да 10 гадоў, а ў 1955 г. выпусьцілі на волю па стану здароўя, тым ня менш прысуд не адмянілі. Памёр Клаўдзій Сьцяпанавіч Дуж-Душэўскі 25 лютага 1959 году ў Коўне і пахаваны на Петрашунскіх могілках.

Вось такім быў глыбачанін Клаўдзій Душэўскі - палітык, асьветнік і дойлід. Ён пакінуў пасьля сябе прыкметны сьлед: кінатэатр "Метрапалітэн" і многія жылыя дамы ў Коўні, будынкі пошты, тэлефонныя станцыі ў Шаўляі, Расейнях, Коўне, Клайпедзе, мясакамбінаты ў Коўні, Панявежысе, Клайпедзе, карпусы станкабудаўнічага завода "Жальгірыс" у Вільні, кандытарскай фабрыкі "Пяргале" ў Коўне, помнікі ў гонар незалежнасьці Літвы, адзін з якіх у г.Акмяне нядаўна адноўлены. У бібліятэках і архівах зьберагаюцца дакументы, а таксама кнігі, часопісы і газеты, выдадзеныя ім.

На Глыбоччыне ніколі не нараджаліся "лукашэнкі". Такая ўжо сьпецыфіка нашага краю. Нашы людзі далі Беларусі бел-чырвона-белы сьцяг і абвясьцілі яе незалежнасьць. І глыбачанін Клаўдзій Сьцяпанавіч Дуж-Душэўскі заклаў у падмурак беларушчыны важкую цагліну, якую ня зрынуць ніякім імперскім сілам і мясцовым янычарам.

**Уладзімір СКРАБАТУН,**
**г.Глыбокае.**

# АД СЬВЯТОГА КАЗІМІРА ДА КАЗІМІРА СЬВЁНТАКА

**З нагоды нацыянальнага сьвята Польшчы - Дня Канстытуцыі 3 Траўня - у консульстве Рэспублікі Польшча ў Горадні адкрылася выстава памятных медалёў і плакетак, якія ў апошнія дзесяцігоддзі былі выканаНЫ мастакамі і майстрамі Варшаўскага манетнага двара.**

Медальерства - хобі шмат каго з дзівацкай кагорты калекцыянераў. Медалі і плакеткі ўвасабляюць у сябе мастацтва пластычнай мініяцюры і культуру сьціслай інфармацыі пра значныя падзеі і велічныя постаці. Яны задавальняюць пытлівы розум, пястуюць памяць пра значнае, шляхетнае, годнае, прыносяць эстэтычную асалоду, якой можа адарыць толькі сапраўднае мастацтва.

Я не фанат ад медальерства, але выстава захапіла выразнай пластычнасьцю, арыгінальнасьцю кампаноўкі іканаграфічна знаёмых вобразаў, высокай выканаўчай тэхнікай. Найбольшае ўражаньне і ўсхваляванасьць думак абудзілі сюжэты. Тут сапраўдная міні-партрэтная галерэя каралёў, патрыятаў, герояў, сьвятых і сьвятароў Польшчы ад Сьвятога Казіміра да Казіміра Сьвёнтака: Ягелоны і Вазы, Касьцюшка і Пілсудзкі, Лелевель і Рэйтан. А яшчэ і падзеі - Канстытуцыя 3 Траўня, падзел Польшчы, паўстаньні, Катынь...

Кожны медаль - старонка польскай гісторыі, на якой мае вочы няўмысна знаходзяць радкі пра Беларусь... Усю моц сваю Ягелоны ўбіралі ад беларуска-літоўскіх каранёў. Сьвяты Казімір, унук Ягайлы, патрон Беларусі і Літвы, скончыў сваё зямное жыцьцё ў Гарадзенскім замку. Тадэвуша Касьцюшку нарадзіла і выпеставала беларуская зямля. Яўхім Лелевель дапамог нашаму славутаму паэту Адаму Міцкевічу ўсьвядоміць нашай "дзяржавы гістарычны ўзьлёт". Тадэвуш Рэйтан для кожнага беларуса - узор сумленьня і патрыятызму для нацыі. А крыж над Катыньню ахіляе і прах беларусаў.

Сімвалічна ўспрымаецца адзін з апошніх медалёў выставы, які прысьвечаны кардыналу Казіміру Сьвёнтаку, у жыцьці якога адбіўся пакутніцкі лёс касьцёлу і яго адраджэньне на Беларусі, што падкрэсьлівае выява Менскай Катэдры на рэверсе, - якой яна была і неўзабаве зноў паўстане. І надпісы на беларускай і лацінскай мовах.

Кожная постаць, прадстаўленая на медалях, адыграла значную ролю ў справе выхаваньня і загартоўкі нацыянальнай годнасьці палякаў. Сёньня мы, беларусы, разумеем - гэтыя постаці і для нас крыніца гонару і патрыятызму. Дзіўна, некалькі народаў сілкуюцца духоўнай спадчынай адных і тых жа асобаў, але ад гэтага постаці не здрабнелі, наадварот, сталі больш велічнымі. Дык гэта ж ня дзіўна, гэта натуральна!

Невялікая выстава і сколькі пачуцьцяў, асацыяцыяў. У ёй гісторыя суседа і наша гісторыя, - паглядзіце, падумайце, упэўніцеся.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**

### *УЛАДЗІМІР ПАНЦЯЛЕЕЎ:*

# "МАЁ ЖЫЦЬЦЁ ТРЫМАЕЦЦА НА ТРОХ КІТАХ..."

**Кожная неардынарная падзея ў культурным жыцьці Беларусі набывае неадназначны розгалас як у сродках масавай інфармацыі, так і ў літаратурна-мастацкіх колах. Калі ствараласяя новая грамадзкая арганізацыя - Беларуская Акадэмія выяўленчага мастацтва - дык, як заўсёды, знайшліся гарачыя прыхільнікі і недаверлівыя песімісты. Але першыя акцыі Акадэміі засьведчылі пра яе жыцьцяздольнасьць і перспектыўнасьць.**

**З гэтай нагоды карэспандэнт "ПАГОНІ" сустрэўся з пакуль адзіным на Гарадзеншчыне сапраўдным членам Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва - скульптарам Уладзімірам Панцялеевым.**



***- Спадар Уладзімір, ці рыхтаваліся вы стаць акадэмікам?***

- На мяне гэты ганаровы тытул зваліўся, як сьнег на галаву. Я і не рыхтаваўся, і не спадзяваўся, што стану акадэмікам у 38 гадоў! Але, безумоўна, рады, бо запрашаюць у акадэмію ня кожнага. На Гарадзеншчыне ёсьць яшчэ вартыя гэтага высокага званьня мастакі. Дарэчы, у чэрвені адбудзецца конкурс на вакантныя пасады акадэмікаў.

***- Быць сапраўдным членам Беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва і прэстыжна і, напэўна, выгадна?***

- Калі стваралася акадэмія, дык не дзеля асабістай выгады яе арганізатараў, а каб мастакі мелі магчымасьць займацца творчасьцю. А чыстая творчасьць у наш час - вялікая раскоша. Але без яе няма сапраўднага мастацтва. Таму акадэмія паклікана захоўваць і разьвіваць той творчы патэнцыял, які мы маем сёньня. Нездарма абраны тры прыярытэтныя накірункі дзейнасьці: выхаваўча-педагагічны, выставачны і навукова-дасьледчы. Што тычыцца прэстыжу, дык сярод абраных акадэмікаў - найбольш вядомыя ў Беларусі і за яе межамі майстры. Усе яны члены Саюзу беларускіх мастакоў, многія займаюцца выкладчыцкай дзейнасьцю. Таму і ня дзіўна, што на прэзентацыі Акадэміі трое іхніх студэнтаў адзначаны прэміямі.

***- А як з арганізацыяй выставаў?***

- Раз у год будзе ладзіцца супольная выстава ў Нацыянальнай галерэі (колішні Палац мастацтваў), на якой кожны акадэмік павінен запрэзентаваць сваю найлепшую працу году. Вядома, будзе аказвацца дапамога ў ладжаньні выставаў і таленавітай моладзі.

***- Вы шмат часу надавалі ўвасабленьню постацяў вядомых дзеячаў беларускай культуры, зрабілі партрэты Максіма Багдановіча, Франьцішка Багушэвіча, надмагільле маці Багдановіча, памятную дошку прафесару Міхасю Ткачову. Але мне даводзілася чуць і крытычныя выказваньні пра вашыя творы.***

- Да крытыкі я стаўлюся нармальна. У адрозьненьне ад некаторых мастакоў, ніколі не крыўдую на журналістаў і мастацтвазнаўцаў, тым больш на людзей, далёкіх ад мастацтва. Так, напрыклад, крытыкавалі помнік на магіле маці Максіма Багдановіча, нават абвінавацілі ў зьдзеку з хрысьціянскай сімволікі. Але гэты помнік, між іншым, вытрымаў, калі пад час моцнай буры на яго звалілася моцнае дрэва. А суседнія помнікі паразьбіваліся. Многія папракаюць, што мала прац прадаю за мяжу. Прабачце, а што застанецца ў нас на Беларусі? Тым больш, беларуская тэматыка ў маёй творчасьці галоўная, і я з задавальненьнем выконваю заказы, зьвязаныя з айчыннай гісторыяй і культурай, бо гэта наша спадчына. Напрыклад, мае мемарыяльныя дошкі паўстанцам Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касьцюшкі паказваюць у тэлеперадачы "Гісторыя Беларусі".

***- Падазраю, што і зараз у вашай майстэрні нараджаецца нешта, зьвязанае з нашым слаўным мінулым...***

- Так. Зараз я працую над памятным знакам нашай зямлячцы - паэтцы Алаізе Пашкевіч (Цётцы). У Новым Двары, дзе пахавана Цётка, стаіць адно гранітны крыж, і амаль ніхто ня ведае, што там ляжыць Цётка. Дык вось трэба зрабіць своеасаблівы куточак з прыродных матэрыялаў, каб упрыгожыць месца, дзе пахавана вядомая паэтка...

У наступным годзе планую правесьці дзьве персанальныя - у Горадні і ў Магілёве, - ды прыняць удзел разам з сябрамі Юрам Якавенкам, Валянцінай Шобай і Уладзімірам Голубам у самай адказнай выставе, якая адбудзецца ў Нацыянальным Мастацкім музеі ў Менску.

***- А як цячэ асабістае жыцьцё ў вольны час? Кажуць, Панцялееў - заўзяты рыбак?***

- У творцы складана вызначыць вольны час. Маё асабістае жыцьцё трымаецца на трох кітах: сям'я, мастацтва і рыбалка. Вельмі цяжка ўсё гэта збалансаваць. Тым больш, мая жонка Валя Шоба - таксама мастачка, і ёй, акрамя хатніх клопатаў, патрэбны час на творчасьць. А што я заўзяты рыбак, дык гэта праўда. Мы з сябрамі стварылі элітарны клуб аматараў сьпінінгу і нахлысту, езьдзім на Кольскую паўвыспу на ліцэнзійную лоўлю ласося. Я сьню і мару, што нехалі зачаплю такую рыбіну, якую сам ня здолею выцягнуць з вады.

**Гутарыў Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**
**ФОТА Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## *РЭСПУБЛІКАНСКІ ФОТАПЛЕНЭР У ГОРАДНІ*

**3-4 траўня ў Горадні і яго навакольлі праходзіў І Рэспубліканскі фотапленэр "Я бачу гэты сьвет па-свойму", арганізаваны абласным цэнтрам тэхнічнай творчасьці навучэнцаў і Гарадзенскім Маладзёжным фотаклубам "МІГ" імя Юрыя Слабажаніна.**

Для ўдзелу ў фотапленэры прыехалі лепшыя фотааматары і фотамастакі з Менску, Магілёва, Гомеля і Ліды.

Мэта пленэру - паказаць навакольны сьвет незвычайна, самабытна. Тым самым зьдзівіць будучага гледача, навучыць яго ўспрымаць штодзённае жыцьцё па-іншаму, творча.

У ліпені будуць падведзены вынікі І Рэспубліканскага фотапленэру, журы назаве пераможцаў. А экспазіцыю па выніках пленэру пабачаць жыхары сталіцы і ўсіх абласных цэнтраў рэспублікі.

**Віталь НІКАНОВІЧ.**

## А ВЫ БАЧЫЛІ ЧЫНОЎНІКАЎ У СПАРТЫЎНЫХ ТРУСАХ?

На травень запланаваная футбольная сустрэча паміж... уладамі Горадні і Беластока. Папярэдняя дамова аб гэтай гульні была дасягнута яшчэ ўпачатку сакавіка пад час адкрыцьця ў Сапоцкіне шпіталя, арганізаванага таварыствам "Wspólnota Polska". Пад час сустрэчы мэраў Беластока і Горадні Кшыштафа Юргеля і Генрыха Крупенькі была дасягнута таксама дамоўленасьць аб удзеле польскай дэлегацыі у Фестывалі нацыянальных культур у Горадні і беларускай - у Днях Беластоку.

**В.АНІМУЦКІ.**

## КАМУ ПЕРАМОГА, КАМУ СТРЫТБОЛ

**На сьвяткаваньне Дня перамогі гарадзенскія ўлады выдаткавалі каля 20 мільёнаў рублёў.**

Грошы пойдуць на правядзеньне 8 траўня ўрачыстага паседжаньня прадстаўнікоў працоўных калектываў і сьвяточнага канцэрту, а таксама на арганізацыю мітынгу-рэквіему і марша-параду духавых аркестраў, якія адбудуцца на наступны дзень.

На 9 траўня гарадзенскімі ўладамі запланавана і сьвята вулічнага баскетболу, больш вядомага пад назвай стрытбол.

**В.М.**

## ДАВАЙ, ЗАПАЛІМ, ТАВАРЫШ...

**Месцам, дзе ў Горадні можна набыць цыгарэты па самых танных цэнах, зьяўляецца Скідзельскі рынак. Праўда, апошнія некалькі дзён зьмяніўся асартымент тытунёвых вырабаў. На гэта паўплывалі два фактары: з пачатку траўня ўрад краіны забараніў увоз цыгарэт без акцызных квіткоў, наклеены пад поліэтыленавай абалонкай, а таксама новыя правілы мытнага афармленьня грузаў і ўзмацненьне барацьбы з кантрабандай.**

Зараз на рынку цэны наступныя:

"Астра" (вытв.Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі) - 2 000 рублёў
"Гродна" - 2 500 рублёў,
"Бонд", "Саюз-Апалон" - 5 500 рублёў,
"L&M" - 6 500 рублёў,
"Магна" - 5 000 рублёў,
"Прэзідэнт" - 5 500 рублёў,
"Голдэн Амерыкэн" - 8 000 рублёў.

У іншых месцах, дзе адбываецца гандаль цыгарэтамі з рук, цэны могуць быць на 500 - 1 500 рублёў вышэй.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# *НАШ КАЛЯНДАР*

**10 траўня**

**1299 г.** Скончыў жыцьцёвы шлях Даўмонт, князь Нальшчанскі і Пскоўскі, бацька Давыда Гарадзенскага.

**1797 г.** Нарадзіўся Дамінік Стафановіч, музыкант, педагог, дырыжор, пачынальнік беларускага піянізму.

**11 траўня**

**1788 г.** У маёнтку Пацейкі (на Навагрудчыне) у сям'і уніяцкага сьвятара нарадзіўся Міхал Ачапоўскі, знакаміты вучоны-агранам, глебазнавец, асьветнік.

**1885 г.** У Карэлічах нарадзіўся Іцхак Кацнельсон, вядомы яўрэйскі пісьменьнік.

**12 траўня**

**1905 г.** У вёсцы Байдашы (Ваўкавыскі раён) нарадзіўся Язэп Найдзюк-Александровіч, публіцыст, гісторык, слынны грамадзкі дзеяч.

**1917 г.** У Ялце пасьля працяглай хваробы памёр Максім Багдановіч, класік беларускай і сусьветнай літаратуры.

**14 траўня**

1613 Мястэчка Жыровічы атрымала Магдэбургскае права.

**15 траўня**

**1916 г.** У вёсцы Запольле (Навагрудскі раён) нарадзілася Ніна Тарас, вядомая паэтка і перакладчыца.

**16 траўня**

**1950 г.** У Горадні нарадзілася Вольга Корбут, славутая гімнастка, чэмпіёнка Мюнхенскай і Манрэальскай алімпіядаў.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

## КРЫМІНАЛ

### ПЯРУН НЕ З УСІМІ ЖАРТУЕ

**Першы вясновы пярун і навальніца ня ўсім прыносяць радасьць. Згодна з народнай прыкметай, калі пачынаецца першая навальніца, трэба выйсьці на двор і перакінуць праз плечы цэглу. Добра з гэтай нагоды яшчэ і выпіць кілішак гарэлкі. Ня тое, каб гэта было абавязковым, але...**

1 траўня, маланка запаліла дом па вул.Пышкі,5 у Горадні. Пажарныя прыбылі своечасова на чатырох машынах і загасілі полымя. Дом абгарэў, але застаўся цэлым. Па папярэдніх дадзеных, маланка ўдарыла ў слуп ЛЭП, ад гэтага запалілася праводка, ад яе - драўляная столь і дах.

Адзін з суседзяў пагарэльца ў гэты час прыняў усе меры народнай перасьцярогі, нават з перакульваньнем кілішкаў. Пярун завітаў і ў яго хату, аднак толькі пажартаваў: скокнуў іскрай паміж разеткаю і батарэяй і самастойна заставіў працаваць электразапальнічку на кухні. Вось і ня вер у забабоны.

**С.С.**

### ЯЎКА З ПАКАЯНЬНЕМ

**Пачаўся дачны сезон і, што можа быць лепш, як пасядзець вечарам на прыродзе, пагутарыць з суседам.**

У той вечар на дачы, што пад "Азотам" у Гарадзенскім раёне сусед з суседам ціха вячэралі. размову "падтрымлівала" бутэлька гарэлкі. Нехта нешта ня тое сказаў, узьнікла сварка. Амаль 70-гадовы пенсіянер, які прыйшоў у госьці, схапіўся за нож... Гаспадар хаты ад атрыманых траўмаў на месцы памёр. А на другі дзень пенсіянер прыйшоў у міліцыю і ўсё расказаў.

**Г.ХАЛЯНКОЎ.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў. Іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня:
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ 1561. Наклад 12990.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00. 07.05.96.

Рэдактар Мікола Маркевіч